 



# II З'ЕЗД КАРЭСПАНДЭНТАЎ »НІВЫ«

4 снежня ў Беластоку ў памяшканні ГП БГКТ адбыўся ІІ-гі з'езд карэспандэнтаў «Нівы».

З'езд насіў рабочы характар і быў прысвечаны паўсядзённай працы тэрэновых карэспандэнтаў.

На заканчэнне з'езду ГП БГКТ уручыла ўдзельнікам яго кніжныя падаркі, а рэдакцыя «Нівы» найбольш актыўных карэспандэнтаў ўзнагародзіла рэчавымі ўзнагародамі.

**Фрагмент залы З'езду падчас пасяджэння.**


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 51 (251) | ГОД V | БЕЛАСТОК, 18 СНЕЖНЯ 1960 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.




**Старшыня ГП БГКТ Ліда Бялецкая ўручае Мікалаю Панфілюку з Дубіч Царкоўных, актыўнаму карэспандэнту «Нівы», шасцітамовае выданне Кузьмы Чорнага.**

**Найстарэйшы і наймалодшы карэспандэнт «Нівы» — Нестар Перавой, пенсіянер з Бельска і Янка Мартынюк, вучань з Плюціч. Як вядома, Нестар Перавой з'яўляецца вядомым на Беласточчыне мічурынаўцам. Аб прапагандзе сельскагаспадарчых ведаў не забывае ён ніколі, аб чым найлепш сведчаць экспанаты кукурузы з свайго агароду, якія ён прывёз на з'езд.**

Здымкі **ГЕНРЫХА РАГАЗІНСКАГА**





НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ЗА МАЛА ЧЫТАЮЦЬ...

«Веды — багацце, веды — скарб» — гаворыцца ў народзе. А веды дае нам кніжка. Нас пацікавіла «заглянуць» у няабраную бібліятэку. а проста — «напатканую» і пазнаёміцца з працай яе. І вось вёска Градэлі ў Бельскім павеце. Так, тут ёсць грамадская бібліятэка...

Загадчыка бібліятэкі Уладзіміра Бурылу застаем за працай: маладой жанчыне з Грыгораўцаў шукае сэнсацыйных кніжак, а некалькі школьнікаў з малодшых класаў чакаюць на беларускія кніжкі з казкамі. Гэтае акурат ёсць, здаволеныя інтарасанты пакідаюць нас...

**— Не будзем многа вас трывожыць. Бачым, што многа маеце сёння інтарасантаў. Можа скажаце нам як наогул ацэньваеце стан чытальніцтва на сваёй тэрыторыі?**

— Бібліятэкарам я працую нядаўна, бо толькі адзін год. Але сваю арыентыроўку ў гэтым, здаецца, ужо маю. Гавару «здаецца», бо гаварыць аб чытальніцтве толькі паводле звод‍ак зробленых на аснове картатэкі, дык можна зрабіць людзям крыўду. Кніжку пазычае адзін, а прачытае яе некалькі членаў сям'і, ды і сусед яшчэ скарыстае з выпадку «блізкасці» кніжкі. Трэба сказаць, што наогул чытальніцтва ў нас слаба ідзе ўперад. Людзі за мала чытаюць сельскагаспадарчай літаратуры, за мала ёю цікавяцца. Не гавару ўжо аб старэйшых людзях, якім не давялося здабыць магчымасці свабодна карыстацца кніжкай, але сярод маладых непісьменных няма...

(Працяг на стар. 4)

# А ХТО НАШЫ ПРОДКІ?

### ЦУДА - КАМЕНЬ

Калі б хто-небудзь хацеў даведацца, ад якога часу пачынаецца пісаная гісторыя Падляшша, дык павінен быў бы звярнуцца да змурнэлых пергаментаў старажытных грэчаскіх і рымскіх пісьменнікаў, гісторыкаў і географаў. Іменна яны ўжо ў VІ — V стагоддзі да нашай эры занатавалі першыя звесткі аб нашай зямлі і насельніцтве, якое жыло на ёй. Першую звестку аб тэрыторыі сучаснага Падляшша знаходзім у старажытнага грэчаскага гісторыка Герадота з Галікарнасу, у яго дзевяцітамовай «Гісторыі». Іменна ў ІV томе, пад датай каля 512 года да нашай эры. Герадот змясціў апісанне народа які жыў на сучаснай Валыні і Падляшшы.

Чаму так рана зацікавіліся старажытныя грэкі і рымляне нашай краінай? Што прыцягвала іх увагу да гэтых суровых і таямнічых уладанняў Аквілона (марознага паўночнага ветру)?

Узбярэжжы Балтыйскага мора — радзіма шляхетнага рэчыва, якім з'яўляецца бурштын. Іменна бурштын у VІ — V стагоддзі ў Грэцыі, а затым у Рыме цаніўся даражэй ад золата і шляхетных каменняў.

Вакол бурштыну ў старажытных грэкаў склаліся фантастычныя легенды і паданні. Паходжанне бурштыну выводзілася грэкамі ад багоў. Краіну ж, дзе яго знаходзілі, старажытныя называлі «краем залатога руна», гэта значыць — краінай непамерных багаццяў. Вось чаму ў Грэцыі і Рыме землі, якія ляжалі над Балтыйскім морам, называлі «паўночнай краінай залатога руна». Акрамя бурштыну гэтыя землі славіліся бабровымі саболевымі футрамі, якія таксама высока цаніліся на рынках грэчаскіх і рымскіх гарадоў. Гэта і было прычынай таго, што ўзбярэжжа Балтыйскага мора як магнітам прыцягвала ўвагу грэчаскіх і рымскіх купцоў і падарожнікаў.

### ШЛЯХІ СТАРАЖЫТНЫХ У КРАІНУ ЭЛЕКТРОНА

Грэчаскія купцы і падарожнікі рознымі шляхамі імкнуліся на ўзбярэжжа Балтыйскага

(Працяг са стар. 4)

 

# Аўтарскія вечарыны

25 лістапада г. г. літаратурная група Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Варшаве, у памяшканні Аддзела БГКТ, наладзіла аўтарскі вечар Яшы Бурша. Аўтар прачытаў шмат цікавых вершаў на беларускай і польскай мовах. У вечары прыняла ўдзел 21 асоб.

*

Удзельнікі Вячэрняй сельскагаспадарчай школы ў вёсцы Ласінка (Гайнаўскі павет) гасцілі ў сябе 29 лістапада г. г. паэта Віктара Шведа, які пазнаёміў іх з сваёй творчасцю.

Вершы Віктара Шведа выклікалі вялікае зацікаўленне прысутных, якія звярнуліся да аўтара з просьбай, каб наведваў іх часцей.

**В. Ш.**

# Новы сельгасгурток

Колькасць сельскагаспадарчых гурткоў з кожным месяцам павялічваецца. На Сакольшчыне зараз існуюць 101 сельгасгурткі. Апошнім часам інтэнсіўней арганізуюцца сельгасгурткі і ва ўсходняй частцы Сакольскага павета. Нядаўна арганізаваўся сельгасгурток у вёсцы Гураны. Налічвае ён звыш 20 членаў. На старшыню сельгасгуртка аднагалосна выбраны Рыгор Турыч. Усе гуртоўцы адразу заплацілі паўгадовыя складчыны і атрымалі членскія легітымацыі.

На гэтым арганізацыйным сходзе былі падняты першыя пастановы, а менавіта, купіць малацільны агрэгат, сеялку да вапнавання глебы, электрычны рухавік і шрутоўнік. Такім чынам і ў Гуранах ёсць ужо арганізацыя, якая будзе рабіць усе намаганні ў кірунку павялічэння сельскагаспадарчай вытворчасці і ўзнімання на вышэйшы ўзровень культуры апрацоўкі зямлі.

**М. Х.**

# Партыйная адукацыя ў Гайнаўцы

Партыйную вучобу на тэрыторыі Гайнаўкі вядзецца ў 20-ці пунктах. Сёлета прыступіла да яе звыш 700 асоб у тым ліку 120 беспартыйных. Слухачы партыйнай адукацыі ў большасці гэта рабочыя Гайнаўскіх прадпрыемстваў. Напрыклад у Гайнаўскім прадпрыемстве драўлянай прамысловасці да партыйнай вучобы прыступіла 80 рабочых.

Найбольш папулярныя тэмы, якія выбралі сабе слухачы для вывучэння гэта: «Бягучая палітыка партыі», «Польскі рабочы рух» і «Пытанні светапогляду».

**(вб)**

# ЭКСКУРСІЯ Ў ВАРШАВУ

Нядаўна актывісты ЗМВ і ЛьЗС Беласточчыны наведалі Варшаву. Яны пазнаёміліся са сталіцай, з яе забыткамі і культурнымі ўстановамі, наведалі гістарычныя месцы і сустрэліся з маладзёжнымі дзеячамі.

Ніжэй змяшчаем два здымкі з гэтай цікавай экскурсіі.



**Сустрэча са старшынёй Галоўнага праўлення Саюза сялянскай моладзі тав. Тэйхмай.**



**Складанне вянкоў на магілах Ганкі Савіцкай і Янка Красіцкага.**

Здымкі «ГРАМАДА»

працяг са стар. 1

мора. Адны з іх на вутлых парусных караблях аплывалі ўсю Паўднёвую і Заходнюю Еўропу, каб цераз Міжземнае мора, Гібралтарскі праліў, Біскайскі заліў і Паўночнае мора пранікнуць у Балтыйскае мора. Але гэты шлях быў у тыя часы надзвычай небяспечны з прычыны адсутнасці навігацыйных прыбораў, карт мароў, а таксама з прычыны марскіх бур у Біскайскім заліве, якія губілі ўсіх падарожнікаў. Толькі некаторым з іх сапраўды цудам удавалася даплыць да «Бурштыновых узбярэжжаў».

Грэчаскія падарожнікі пачынаюць кіравацца да Балтыкі з узбярэжжаў Адрыятычнага мора цераз Альпы і Карпаты, сучасную цэнтральную Польшчу.

Гружаныя таварамі рачныя судны з дзесяткамі прыкаваных да вёслаў нявольнікаў - грабцоў кіруюцца з Пантыйскага (Чорнага) мора на поўнач русламі рэк Тыраса (Днястра) і Барыстэнеса (Дняпра). У вярхоўях гэтых рэк купцы волакам перацягваюць свае судны ў раку Буг і Нарву і далей сплываюць па плыні гэтых рэк да Віслы.

На ўзбярэжжах рэк грэчаскія купцы сустракалі розныя дзікія народы, з якімі неабходна было весці далікатныя перагаворы, задабраць начальнікаў плямён багатымі падарункамі, каб мець магчымасць плыць свабодна далей. Асабліва цяжка было перапраўляцца з суднамі з Днястра і Дняпра ў Буг і Нарву. Трэба было: або выгружаць тавары з суднаў на коней, каб потым зноў пераносіць іх на новапабудаваныя плыты і судны, або волакам цягнуць цяжкія судны па сухапуцці на працягу некалькі дзесяткаў кіламетраў, каб плысці далей. Тут купцы былі вымушаны звяртацца за дапамогай да мясцовага насельніцтва, каб тое пасобіла ім у цяжкасцях пераправы. Вось чаму кантакт з насельніцтвам, якое жыло па верхняму цячэнню рэк Прыпяці (як працягу Дняпра), Днястра, Буга і нашай Нарвы быў значна шырэйшы, чым з плямёнамі, якія жылі ў ніжнім цячэнні гэтых рэк.

### УВАСКРАШЭННЕ ГЕРАДОТА

Таму «бацька еўрапейскай гістарыяграфіі» — Герадот — хоць сам і не пабываў у «паўночнай краіне залатога руна» і не перажыў усіх прыгод небяспечнага падарожжа, мог атрымаць вельмі дакладныя звесткі аб народзе, які жыў у VI—V стагоддзі да нашай эры на тэрыторыі сучаснага нам Падляшша і Валыні, ад купцоў, што пабывалі ў гэтай краіне. Апавяданне Герадота, такім чынам, для нас мае незвычайную вартасць. Кожнаму радку яго IV-ага тома «Гісторыі» мы будзем прыслухоўвацца з асаблівай увагай.

IV том «Гісторыі» Герадота, прысвечаны ў асноўным паходу персідскага караля Дарыя I супроць народаў, што жылі на поўнач ад Чорнага мора. Спачатку аўтар паведамляе чытачу звесткі аб народах, якія жылі на поўнач ад Чорнага мора. Пры гэтым пералічвае гэтыя народы ў верх па цячэнню ракі Дняпра, пачынаючы ад узбярэжжа Чорнага мора, так, як ішоў шлях старажытных грэчаскіх купцоў да Балтыйскага мора. І так, пачынаючы ад усця Дняпра, Герадот называе наступныя народы: барыстанэітаў, якія жылі ў грэчаскім горадзе Ольбія, затым каліпідаў, алідзонаў і скіфаўземляробаў, якія сеялі збожжа «не на хлеб, а на продаж». Далей на поўнач ад скіфаў-земляробаў Герадот знаходзіць загадкавы народ Нэураў, у якім гісторыкі ўсяго свету бачаць продкаў славян. «Паўночныя ж прасторы Нэураў не заселены людзьмі», — паведамляе Герадот. Паводле гэтай звесткі нельга ўстанавіць яшчэ дакладнага месца пасялення праславян-Нэураў. Далей у «Гісторыі» Герадота знаходзім прыблізнае вылічэнне адлегласці паміж паасобнымі народамі ў старажытнай меры «стадыёнах». З гэтага вылічэння вынікае, што народ, якога Герадот называе Нэурамі, жыў на тэрыторыі сучаснага Падляшша і Валыні.

### ЦІ НАШЫ ПРОДКІ БЫЛІ ВАЎКАЛАКАМІ?

Герадот з'яўляецца даволі верагодным гісторыкам, аднак і ён не пазбег таго фантастычнага ўяўлення аб далёкіх народах, уяўлення, якім спавілі іх звычайныя казачнікі - прасталюдзіны. І так, народ Андрафагаў («андрофагос» — па-грэчаску значыць — людаед), які паводле Герадота быў непасрэдным суседам Нэураў, займаўся людаедствам і быў самым дзікім і несправядлівым народам. А нашых продкаў — Нэураў грэчаскі гісторык надзяліў не менш незвычайнымі якасцямі:

# А ХТО НА

# Аблягчэнне ў працы

Вядома, што нялёгкі лёс вясковай жанчыны. Апрача сталай працы ў полі, мае яна яшчэ шмат важных абавязкаў у хаце і на панадворку. Адным. пэўна найбольш цяжкім абавязкам з'яўляецца мыццё вопраткі і бялізны.

Гэтую працу значна аблягчае сціральная электрычная машына. На жаль, пральнымі машынамі вясковыя гаспадыні карыстаюцца вельмі рэдка. І то не таму, што электрычныя пральк і пакуль што каштуюць каля дзьвух тысяч злотых. Пераважная большасць сялян магла б знайсці грошы на гэтакі выдатак. Яны, аднак, не бачаць патрэбы стасавання сціральнай машыны, не разумеюць карысці, якія яна дае.

Так было і ў Васьках. Рада жанчын, якая існуе пры мясцовым сельгаскааператыве, вырашыла купіць пральную машыну.

— Праўленне каапераатыва, — гаворыць старшыня Рады жанчын, Анна Хадакоўская, — прызначыла да нашага карыстання грошы са свайго грамадскага фонду за бягучы год. Вырашылі мы за гэтыя грошы купіць электрычную пральку. Пачаткова жанчыны нават злавалі на нас. Гаварылі яны, што дарма выкідваем грамадскія грошы, што электрычная пральная машына ім не патрэбна і яны ўвогуле не маюць намеру ёю карыстацца. «Уложыш да гэтай пралькі цэлую сарочку, а потым і выймаць не будзе чаго — застануцца толькі адны кускі. А лепш ужо, як дагэтуль, сціраць уручную», — гаварыла не адна гаспадыня. Спецыяльна мы нікога і не намаўляем карыстацца электрычнай пралькай. Яны самыя пераканаліся, калі пабачылі, як гэта выглядае ў практыцы. Не магло быць зрэшты інакш, калі пры дапамозе пралькі на працягу ўсяго кільканаццаці мінут можна высціраць гэткую колькасць вопраткі, над якой трэба было б уручную мучыцца цэлы дзень. Зараз у нашай вёсцы жанчыны проста лабіваюцца за пралькай. Яна значна аблягчае нам працу і эканоміць час, а прытым сцірае лепш, больш дакладна і нічога не псуе.

Думаю, каментарыяў тут не трэба. Купіць пральку — гэта значны выдатак у гаспадарцы. Калі, аднак, палічыць ашчаднасць у працы і часе, выдатак гэты зусім аплочваецца.

**(вр)**



Анна Хадакоўская задаволена новым набыткам. **Пралькай сціраецца хутчэй, лягчэй і лепш.**

Фота — **В. Рудчык**

# ЗА МАЛА ЧЫТАЮЦЬ...

**(Працяг са стар. 1)**

**— Колькі маеце кніжак?**

— Наша бібліятэка налічвае 2300 томаў рознай літаратуры. У гэтым ліку 1200 кніжак знаходзіцца ў 5-ці бібліятэчных пунктах у навакольных вёсках.

**— Колькі жыхароў налічваецца ў вашым бібліятэчным раёне?**

— Каля 1900 чалавек. Бачыце, на аднаго жыхара выпадае больш чым па кніжцы, улічваючы дзяцей у перадшкольным узросце.

**— А колькі маеце чытачоў?**

— Разам з бібліятэчнымі пунктамі 824. Гэта не так ужо і дрэнна, але хацелася б мець сталых чытачоў больш.

**— Хто найбольш чытае?**

— Жэня Яканюк, прадаўшчыца нашай крамы, мясцовая, чытае надта многа. Прачытала амаль усе нашы кніжкі. Затым настаўніца з Пашкоўшчыны Зофія Заёнчкоўская, Марыя Ігнацюк з нашай вёскі.

**— Якія кніжкі карыстаюцца найбольшай папулярнасцю?**

— Памінаючы абавязваючую літаратуру да чытання ў школе, раман «Векапомныя дні» Міхася Лынькова.

**— Ці ваша праца ў бібліятэцы вам падабаецца?**

— Надта. Маю магчымасць сам прачытваць кніжкі па некалькі разоў. Я закончыў 9 кл. у Беларускім ліцэі ў Бельску. Цяжка мне было б без кніжак.

**Гутарыў — М. К.**

# АГУЛЬНЫ ПЕРАПІС

## рэч не новая

Ужо ў старажытным Егіпце, у чацвёртым тысячагоддзі старой эры, праводзіліся першыя спісы некаторых слаёў насельніцтва. Гэтыя спісы ўлічвалі таксама сельскую гаспадарку і жывёлу.

Каля 3 500 год таму назад, у некаторых правінцыях Егіпта былі ўведзены рэестры насельніцтва, у якіх адзначалася нараджэнне і смерць пасобных людзей.

Вельмі даўно таксама пачалі праводзіць перапіс насельніцтва кітайцы. Так, напрыклад, у VIII стагоддзі да нашай эры цар Гсу-Ан з дынастыі Хоу загадаў правесці перапіс насельніцтва. Прычынай перапісу была прайграная бітва, у якой цар загубіў амаль усю сваю армію. Праведзены перапіс меў выкрыць магчымасць набору новых салдат да арміі.

У нашай краіне агульныя перапісы маюць вельмі кароткую традыцыю. Першы такі перапіс быў праведзены ў нас у... 1921 годзе.

Праўду кажучы, то яшчэ ў пачатку XVI стагоддзя ўведзена ў Польшчы так званае «генеральнае пагалоўе» (падатак «ад галоў»). Выказы гэтага падатку падаюць першую крыніцу інфармацыі аб колькасці насельніцтва. Але «пагалоўнага» нельга залічыць да агульнага перапісу, таму што не ўсе тады плацілі падатак «ад галавы». Уся шляхта і духавенства былі ад яго зволнены. У сувязі з «пагалоўным» Мікалай Рэй апісаў у той час вельмі цікавую гісторыю: «Войт змаўляецца з грамадой, каб было толькі сто галоў у вёсцы, і каб у той дзень, калі будзе аддаваць набор, людзі разышліся на арэхі або ў поле. Пасля прыносіць сто грошы наборцы і прысягае, што цяпер няма ў вёсцы больш ста галоў. Наборца вымушаны быў узяць сто грошы, а за рэшту войт піў з грамадой дзве тыдні».

Усе перапісы аб колькасці насельніцтва ў далёкім мінулым праводзіліся пераважна ў падатковых і мілітарных мэтах.

За перыяд мінулых дзесяцігоддзяў агульныя перапісы праводзіліся на тэрыторыі шматлікіх дзяржаў. Але ўсе яны паслужылі толькі і выключна статыстычным дадзеным. Усе інфармацыі, атрыманыя ў час перапісу, не могуць быць выкарыстаны ў ніякіх іншых мэтах. Не могуць яны зразумела стаць асновай вызначэння падатку ці іншых налогаў. Гэта гарантуе насельніцтву дзяржава, у якой праводзіцца агульны перапіс.

Агульны перапіс, які праводзіцца ў нашай краіне, улічвае апрача насельніцтва, таксама жыллёвыя ўмовы, будынкі і сельскую гаспадарку і абапіраецца на вышэй упамянутых правілах.



**УВАГА, ЧЫТАЧЫ!**

РЭДАКЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ, ШТО У НОВАГОДНІМ НУМАРЫ «НІВЫ» ЗА 31 СНЕЖНЯ БУДЗЕ БЯСПЛАТНЫ ТАБЕЛЬ - КАЛЯНДАР НА 1961 ГОД. ХОЧАЦЕ МЕЦЬ КАЛЯНДАР НА ЦЭЛЫ 1961 ГОД, ПАСТАРАЙЦЕСЯ МЕЦЬ ГЭТЫ НУМАР «НІВЫ».

# МОДА

## ТОЛЬКІ ДЛЯ МУЖЧЫН

На штодзень модная простая спартовая вопратка: свэтры, курткі, канадыйкі.

Модна: каляровыя пінжакі да гладкіх нагавіц. Колеры павінны быць дапасаваны. Пінжак добра будзе выглядаць з таннага матэрыялу. У гасціну, на забаву патрэбны касцюм цёмнасіні, шэразялёны, бронзавы. Заўважце: гузікі толькі ў адзін рад. Ясёнкі — кароткія — 2 см. за калені. Модныя матэрыялы ў клетку. Яны і таннейшыя.

Найлепш шыйце паводле фасонаў на рысунку. Напэўна будзеце таксама прыстойнымі і элегантнымі.



Для цікавасці

## Якія рэлігіі дзейнічаюць у Польшчы

Паводле «Rocznika Politycznego i Gospodarczego» за год 1958 у Польшчы налічваем 19 веравызнанняў, прызнаных дзяржавай.

- Касцёл рымска - каталіцкі
- Польскі аўтакефальны касцёл праваслаўны.
- Касцёл евангеліцка - аўгсбурскі
- Касцёл евангеліцка - рэфармаваны
- Касцёл польска - каталіцкі
- Старакаталіцкі касцёл мар'явітаў
- Каталіцкі касцёл мар'явітаў
- Касцёл метадыстаў
- Польскі касцёл хрысціян баптыстаў
- Унія збораў адвентыстаў дня сёмага
- З'еднаны касцёл евангелічны
- Згуртаванне вольных даследчыкаў пісьма святога
- Згуртаванне даследчыкаў пісьма святога
- Свецкі місійны рух эпіфанія
- Касцёл з'еднаных евангелічных хрысціян дня сёмага
- Еднота братоў польскіх
- Саюз рэлігійны вызнання Майсеевага
- Мусульманскі саюз рэлігійны
- Караімскі саюз рэлігійны.

# ТЭХНІКА БЕЗ ТЭХНІКА

Многа дасканалых вынаходстваў былі выпадковымі. Як жа часта вынаходцамі з'яўляліся людзі неспецыялісты ў данай галіне навукі ці тэхнікі, а проста асобы, якія для ўласнай прыемнасці пачыналі майстраваць.

**Бо паглядзіце:**

- Амерыканскі жывапісец Самуэль Морзэ, не маючы нічога да работы, падчас падарожжа праз мора з часткі сваіх жывапісных прылад і дроту сканструяваў пры дапамозе сябра падарожніка-фізіка па прафесіі першы ў свеце пішучы тэлеграфічны апарат.
- Лекар Дэні Папэн змайстраваў кацялок з накрыўкай, якая замыкаецца. Гэтая навасць дала падставу да збудавання паровай машыны.
- Ляснічы Юзэф Рэсэль у сваім жыцці не бачыў мора, але «забаўляючыся» майстраваннем зрабіў параходную трубу.
- 18-гадовы вучань ювеліра Джэмс Фултон з Філадэльфіі вынайшоў паровы карабель.
- У 1874 годзе студэнт Отмар Зайдлер са Штрасбурга выпадкова адкрыў ДДТ (Азотакс). Але нічога не ведаў пра яго. І толькі 65 год пазней Пол Міллер, шукаючы сродка, які б нішчыў шкоднікаў, прыпомніў пра вынаходства Зайдлера і зрабіў цяперашні наш ДДТ.
- Студэнты Крос і Бэван, праводзячы пробы з цэлюлозай, атрымалі штучнае валакно! Такім чынам яны з'яўляюцца «бацькамі» велізарнай цяпер прамысловасці штучнага валакна.
- Засуваны замок быў вынайдзены ў 1891 годзе маладым інжынерам Гудзонам. Але прадукцыі дачакаўся ён толькі ў 1912 годзе — 21 год ад часу як быў вынайдзены. Аж толькі тады спатрэбілася, каб сканструяваць машыны для прадукцыі гэтай патрэбнай рэчы.




Дарагое сэрцайка! У мяне атрымалася складаная справа. Пазнаёміўся я ўжо блізка год таму назад з Аняй. Моцна палюбіў яе, ды і яна мяне таксама. Пастанавілі ніколі з сабой не расставацца. Маёй дзяўчыне зараз толькі 18-ты год пайшоў. Я хацеў бы з ёю ажаніцца, але нас яшчэ не запішуць, бо яна занадта маладая. Чакаць да поўных 18-ці год — гэта доўга, бо Аня цяжарная, а я не хачу дапусціць, каб аб ёй дрэнна гаварылі. Таму звяртаюся да цябе, парай што зрабіць.

**Ваня**
з Бельскага павета

**На шлюб для няпоўналетніх дазвол дае суд (у Тваім выпадку Павятовы суд у Бельску). Калі суду прад'явіце пасведчанне ад лекара аб цяжарнасці Ані, дазвол напэўна атрымаеце.**

**Іншая справа, ці не за рана Ані ў няпоўных 18 год абсыпацца дзяцьмі. Праўду кажучы, яе арганізм нават яшчэ не зусім прыстасаваны да раджэння дзяцей. Падумайце аб гэтым і ў выпадку, калі будзеце згодны са мной, а таксама калі цяжарнасць Ані не даўжэйшая ад 3-х месяцаў можаце звярнуцца да лекара з просьбай ліквідаваць цяжарнасць. Прыпамінаю: цяпер робіцца гэта бясплатна.**

# Д'ябал з сёмага класа

(SZATAN Z SIÓDMEJ KLASY)

**Рэжысёр — МАРЫЯ КАНЕЎСКАЯ**
**Прадукцыя польская**

Гэтага стары педагог — Гансоўскі — не мог прадбачыць. Выдатныя адказы вучняў яго класа не былі вынікам стараннасці, як думаў прафесар, але адшыфроўкай яго сістэмы пытанняў. Сакрэт прафесара стаўся таямніцай усяго класа дзякуючы «д'яблу», бо так ахрысцілі сябры Адася Цісоўскага. Прафесар абураецца, але адначасова здзіўляецца праніклівасці свайго вучня. Таму запрашае яго на канікулы да свайго брата, кансерватара забыткаў, які жыве ў старым палацы, дзе ад нейкага часу дзеюцца дзіўныя рэчы: гінуць... дзверы.

Пасля прыезду ў палац, хлопец адразу бярэцца за справу, якой не пасаромеўся б нават вопытны дэтэктыў. Ён хутка расшыфраваў «маляра», які аказаўся адным з шайкі зладзеяў дзвярэй. Але чаму зладзеі крадуць дзверы? Знойдзеныя на падстрэшшы запіскі і старая магіла на вясковым магільніку — гэта першыя сляды таямнічай гісторыі, якая мела месца яшчэ ў 1813 годзе. Ранены афіцэр напалеонскіх войск, які тады прыплёўся ў палац, перад смерцю пакінуў ліст, у якім паведамляў свайго брата ў Францыі аб скарбе, захаваным у парку каля палаца. Прайшлі гады і ліст афіцэра знайшоўся ў руках француза, які ў надзеі адшукаць скарб прыехаў у Польшчу. Але тут ён папаў у рукі бандытаў, якія вырашылі здабыць скарб сабе.

Адась даводзіць да таго, што бандыты дастаюцца ў рукі міліцыі. А сам знаходзіць скарб — залатыя манеты ў дупле старога дрэва.






# ПЕРАСЦЯРОГА

Калі Дзямян прывёз карычневую, бліскучую труну з сярэбраным арнаментам, усе суседзі збегліся пад яго хату.

— А саколіку ты мой, а родненькі! — загаласіла бабка Анфіса, заламаўшы рукі. — Няўжо ж ты паміраць збіраешся? Дык табе ўсяго пяцідзесяты гадок стукнуў.

— Не для мяне гэтая мэбля, а толькі для сына, — адказаў Дзямян, хлопаючы каравай рукой па паліту;аваным веку.

— Гэта ж, калі не памыляюся, дваццатая зіма ўсміхнулася твайму сынку. Яго хоць у строй, хоць у бой, усюды справіцца за двух. А ты Дзямянка, даруй Госпадзі, на смерць яго рыхтуеш, — дакарала гаспадара кума Аўдоцця.

— Твая праўда, кума. Сын мой здаровы як бугай, — згадзіўся Дзямян.

— Тожа ж я і кажу, — падтаківала кума.

— Разгагаталіся вы, суседзі мілыя, як гусі, а ў справе не разбіраецеся, — звярнуўся Дзямян да прысутных. — Сын учора матацыклет купіў. Вось і пастаўлю труну ў сынавым пакоі, няхай прыпамінае, што матацыклетам можна без перасядкі на той свет заехаць. Множацца ж у нас дарожныя выпадкі. Людзі гінуць, як мухі. Кожны героям чуецца на матацыклеце ды забывае, што пад ім усяго толькі два колы, а не чатыры. На дарогах смерць усё большы ўраджай збірае. Кожны малакасос на небяспеку рукой махае. Талкуй такому, колькі хочаш, усёроўна на сваім паставіць. Дык вось, мо' труна карысць прынясе, пастаянна прыпамінаючы аб паніхідзе. Цяпер разумееце чаму я яе прывёз?

— Мала гэта паможа, — запярэчыла бабка Анфіса. — Вось Якуб без матацыклета, канём ехаў і ў бальніцы ляжыць. Каму суджана на матацыклеце смерць сустрэць, а каму і на возе. Гэта ўжо як лёс пакіруе.

— Ніякага тут лёсу няма, — стаяў пры сваім Дзямян. Кажуць, на Бога спадзявайся, але і сам у шапку не спі. На публічных дарогах не трэба спяшацца, тут патрэбная толькі ўвага. Ляпей позным вечарам даехаць дахаты, чым апоўдні ў бальніцы ачнуцца.

— Мая старая кожную пятніцу на кірмаш ездзіць і нічога з ёю не здараецца, — з крыўдай у голасе заўважыў сусед Аляксей.

— Гэта зусім іншая справа. Твая баба і на табе ездзіць, як на лысым кані, — пажартаваў Дзямян пад смех прысутных.

— Такую бабу кожны аўтамабіль аб'язджае. Каму ж гэта хочацца разбіць машыну? — дадала бабка Анфіса.

— Худзенькая адазвалася. За табой жа сустрэтыя коні азіраюцца,— адцяла Аўдоцця, заступаючыся за сваю суседку.

— Мілыя суседзі. Труну то вы бачылі але памінак пакуль не прадбачваецца. Таму прабачце, што без пачастунку разыходзімся, — заключыў Дзямян, падаючыся ў хату.

Як самі бачыце, мілыя грамадзяне, дарожныя катастрофы пачынаюць трывожыць і нашую вёску.

Бяспечнасць гужавога транспарту залежыць ад выконвання дарожных законаў. Паміраць жа нам ранавата, ды яшчэ ў далечыні ад роднай хаты.

Дзядзька Лявон



— Ало! Ці не можаце адкінуць нам наш мяч?!



— Што чуваць новенькага, доктар?..

### КОЛЬКІ САБРАЎ

Калі быў неўраджай на бульбу, гаспадары ў вёсцы ўсё наракалі:

— Прапала бульба, прапала бульба...

А жартаўнік Алёша кажа:

— А ў мяне дык не прапала, колькі пасадзіў, толькі і сабраў.

**Канстанцін Белюк**
Сідарка

# ДАЛІКАТНЫ

Цягнік ехаў хутка. Размова ў вагоне йшла аб справах выхавання моладзі і аб хуліганстве.

— Што надта ж непакоіць у сучаснай моладзі, — кажа хударлявая высокая пані ў акулярах, — гэта адсутнасць далікатнасці. Іх гульні і размовы бываюць хамскія.

— Святыя словы, — падтрымаў пан з-пад акна. — Хамства, можна сказаць, першае месца займае. Толькі цікава, адкуль яно бярэцца? Я, напрыклад, таксама люблю пажартаваць, вызначаюся вясёлым характарам, але ведаю граніцы жартаў. Вось пазаўчора вяртаюся з працы і гляджу, што смажаныя ўюны прадаюць. Я ж такі іх вялікі аматар. Купіў сабе аднаго, смачная штучка, мусіць метр даўжыні. Нясу дамоў і раптам думка ў мяне ўзнікла. Чакайце! — думаю. Але смеху будзе! Уюна я схаваў пад плашч і ўваходжу дахаты. Пакруціўся, замітусіўся, усунуў уюна маме ў ложак і чакаю. Урэшце маці распранулася, памалілася і лезе пад коўдру, а там — уюн. Як мама не пачне крычаць, галасіць, як не падскочыць. І бух на падлогу, нават не варушыцца. А я гляджу на гэтае відовішча і амаль не паміраю са смеху. Тут нечакана паявілася жонка. Спярша глянула яна на маму, а пасля на ложак, дзе ляжаў уюн. Жонка пачала крычаць і бух каля мамы ляжыць! А я проста лопаю са смеху. Урэшце ўзяў уюна за хвост і паказваю. — Глядзіце, гэта ўюн, дурныя бабы, — кажу.

Раптам адчыняюцца дзверы і ўваходзіць сяброўка маёй жонкі і пытае, што тут за такая весялосць. — Сама, — кажа, — хачу пасмяяцца.

Неўзабаве і вам стане весялей, толькі падыдзіце бліжэй да мяне, — адказваю.

Яна набліжылася і тады я нечакана ўсунуў ёй уюна за каўнер.

— Кажу вам, грамадзяне, такой забавы даўно я ўжо не бачыў.

Усе ў вагоне рагаталі як шалёныя. А пан з-пад акна заўважыў, канчаючы сваё апавяданне: — Хамства не пераношу і граніцы жартаў ведаю. А пажартаваць сабе ў свабодны час люблю, але далікатна, грамадзяне!

**Мікалай Панфілюк**



# КАЎПАКІ

У Каўпаках вяселле гучна,
Моладзі гуляці зручна,
Музыканты граць ахвочы,
Не малыя цяпер ночы.
Але мала пагулялі,
Бо мазгі паадпівалі.
Шум учыніўся нямалы,
Паваліліся сталы,
З мэблі ў момант сталі граты,
Паваліліся ўсе з хаты.
Хтось кагосьці дзесь пагнаў,
Хтосьці лаяўся, стагнаў.
Гэта Толіка дагналі,
Сем нажоў ў бакі ўвагналі.
Бязлітасна, зверскі збілі,
Хлопцу жыццё загубілі.
Што ж то за народ такі?
Устыд вам, ганьба, Каўпакі!

**Міхась Красоўскі**
Малынка

# САМААБСЛУГОЎВАННЕ

### У ЗАКАПАНЫМ

Да адной з закапанскіх кнігарняў увайшоў пакупшчык і звярнуўся да прадаўшчыцы:

— Калі ласка, мне план Закапанага.

— Маем, але стары, з 1950 года.

— А ці ад таго часу прыбыла хоць адна гара?

**Мікола Ільяшук**
Атвоцк

### У ШКОЛЕ

Пятрусь слаба вучыўся і дрэнна адказваў на пытанні. Аднойчы настаўнік звярнуўся да вучняў:

— Хто мне адкажа на пытанне: хто ў акне пабіў шыбу?

Пятрусь крыкнуў «я».

— Тады ідзі дахаты, — кажа настаўнік, — скажы свайму бацьку, каб уставіў шыбу, а я табе за добры адказ пастаўлю 5.

**А. Макаль**
Крушыняны

### УДЗЯЧНАЯ

У вёсцы выбухнуў пажар. Людзі ўбачылі і пажар пагасілі. Калі ўжо ўсе пачалі разыходзіцца, гаспадыня загаварыла:

— А мае ж вы родненькія, як я вам удзячная. Дай Божанька вы гарэлі б, я вас таксама ратавала б

**Зіна Якімюк**
Бельск



— Уваходзьце, калі ласка!

### ДУМАЎ

Маці: — Сам з'еў цэлы шакалад і не падумаў аб малодшым брацiку!

Сын: — Не, мама, я ўвесь час думаў, каб ён не прышоў за рана.

**Валя Тапалеўская**
Клені